рэчамі: першая—тое, што людзі лішне асьлепляюцца яркімі, але шыбка мінаючымі здарэньнямі; другая — што вузка-нацыональны інтэрэс—часам нават і ня свой уласны, а чужой дзержавы (напр. Польшчы) паадзінокіе нацыональные групы стаўляюць вышэй, чым інтэрэс Краю.

Каб знайсьці супольную палітычную плятформу, мы не павінны агледацца на мімалётны уклад палітычных варункоў, бо ён лёгка зменяецца; не павінны менаць свайго становішча пры кожным новым прыпадку на фронці, пры тэй ці іншай перамені яго; не павінны стаяць на грунці патрэб якой-будзь аднэй нацыональнай групы—*часткі* нашаго Краю. Не: мы, наадварот, павінны цьвёрда стаяць на грунці інтэрэсу нашаго Краю, як непадзельнаго *цэлаго*.

Гэтае пачуцьцё кожнай нацыональнасьці, як „часьці цэлаго", пачуцьцё патрэб агульна-краёвых можэ і павінно еднаць усіх верных сыноў нашай бацькаўшчыны, для каторых Беларуска-Літоўская земля—не мачыха, а родная маці. Тут могуць зыйсьціся разам беларус і літвін, паляк і жыд. І мы ўжо пачынаем бачыць сур'ёзные знакі збліжэньня. Але праўдзівые сыны Краю ніколі ня пойдуць поруч с тымі, хто ў гэтые крытычные для краю дні працаваў дзеля чужой для нас Польскай дзержавы, хто адрокся быць сынам Зямлі нашай. І пры тым новым з'еднаньні грамадзян Краю, якое рана ці пазьней наступіць у нас—паводлуг прыкладу нашых братоў за ваенным фронтам, ня будзе мейсца для тых, хто ўжо паганьбіў свае імя адступніцтвам ад агульна-краёвай справы,—ў першы чарод аслаўленым „44". Жыцьцё вымагае новых чынных сіл, і гэтые сілы знойдуцца.

*І. Мелешка.*

## У Вільні і ваколіцах.

× **Новые судзьдзі.** Як мы ўжо пісалі, Грамадзянскі Угодлівы Суд між кватэрантамі і гаспадарамі дамоў пастанавіў паявлічыць свой склад: саюз дамаўласьнікоў і саюз кватэрантоў павінны былі выбраць ад сябе яшчэ па аднэй — чацьвёртым — судзьдзі.

Выбраны: ад саюза кватэрантоў — І. Кімонтт, ад саюза дамаўласьнікоў—В. Сьвятополк-Мірскі.

Гэтак суд у поўным складзі складаецца з 8 членоў і супэрарбітра. Члены суда: са стараны кватэрантоў — І. Кімонтт, А. Луцкевіч, д-р Г. Ромм і Рэмігольскі; са стараны дамаўласьнікоў — Кац, Лукашэвіч, Сьвятополк-Мірскі і д-р Віршубскі; супэрарбітр — М. Вэнславскі.

Да суда ўходзяць: пяць хрысьціян (два беларусы, два палякі і адзін літвін) і чацьвёра жыдоў.

× **У Беларускім Клюбе.** С прыходам доўгіх восенных вечароў узнімаецца патрэба мець магчымасць правясьці вольны вечар між сваімі — у цёплым і сьветлым памяшчэньні (бо дома і холадна і цёмна!). Дзеля таго, каб гэткіе вечары давалі нешта і для душы, беларуская драматычная дружына абдумывае ўжо плян работы на восень і скора прыступіць да працы. Трэба спадзевацца, што ў адну з бліжэйшых нядзель дружына адкрые у клюбе восенны сэзон.

× **У камісіі дзеля установкі цэн.** На апошнім заседаньні «Preisprüfungstelle» былі чутны жальбы на прэвышэньне цэн папіросаў і на тое, што моркву прадаюць не на вагу, а на штукі або вязанкамі. Пастаноўлено надалей загадаць прадаваць моркву толькі на вагу. Дзеля змаганьня з нарушэньнямі цэн пастаноўлено, каб аб кожным нарушэньні данасілося-бы ўласьцям і каб на ўсіх таварах была выстаўлена цэна.

× **Німа дроў!** У жніўні і ў верасьні прадажы дроў у местовым урадзе ня будзе. Наагул жэ дровы будуць прадаваць надалей па 20 м. за куб. мэтр.

× **Пагода ў жніўню.** Месяц жнівень прынёс вельмі зменную пагоду. У некалькі гадзін тэмпэратура зменяецца так, што з гарачні робіцца даволі сьцюдзёнай. Небо ў адну гадзіну зменяе выгляд: то яно зусім чыстае, як у маі, то зацягіваецца хмарамі, каторые суляць навальніцу і нясуць тропікальные дажджы.

Для збору ураджаю гэткая пагода — вельмі благая.

× **Тэмпэратура.** Найвышэйшая і найніжэйшая тэмпэратура за апошніе дні была (па Цэльсію):

| | найвыш. | найніж. |
|---|---|---|
| 19—20 | + 29° | + 14,6° |
| 20—21 | + 28° | + 12° |
| 21—22 | + 26° | + 14,5° |

## З усяго Краю.

ВІРШУБЫ. Вадзяны млын на Вільі разам з жылым домам знесены вадой. Пры гэтым, як кажуць, пагіблі сямёра невядомых людзей, астаўшыхся тамака на начлег. Двох утопленікоў, каторых знайшлі ў Вільі, перавезьлі ў Вільню. Іх можна бачыць у бальніцы Сьв. Якуба.

ЛІДА. Тутэйшае жыцьцё пры цяперашніх цяжкіх варунках праходзіць даволі рознародна і весела. Ад часу да часу адбываюцца нямецкіе і жыдоўскіе спэктаклі, канцэрты і іншые забавы, ў тым ліку нідаўна адбыўся ў местовым садзі «дзень кветкі».

У кастрычніку тут адбудзецца з'езд нямецкіх ваенных пастароў.

КОСІЧЫ. Ад пяруна тут запалілося і згарэло гумно. Шкода даволі значная.

КАНЮХІ. З невядомай прычыны тут узняўся пажар, ад катораго згарэў адзін хутар з усім дабром і 271 руб. грашыма.

БАЖЫЛОЎКА. Сын тутэйшаго селяніна разам з адным работнікам з Аўгустова заманілі двох жыдоўскіх купцоў у лес і абрабавалі іх, забраўшы 520 руб. — Сувалскі акружны суд засудзіў кожнаго на 1 год вастрогу.

КОМАТОВО. 25 мая г. г. невядомы чэлавек хацеў перэначаваць у хаці Сідарчука, але той адмовіўся пусьціць яго да сябе, бо гэта забаронено ўласьцямі. Каб памсьціцца, той невядомы падпаліў хату Сідарчука, і яна разам с суседнімі дамамі згарэла да тла. Вінавайцу задзержалі ў Абуховічах.

Гродзенскі акружны суд засудзіў гэтаго чэлавека, аказаўшагося Ігнатам Квірыновічэм, Васілішскаго пав., і бадзяўшагося ўжо больш за 2 гады, за сумысны падпал на сьмерць. Кара споўнена.

ГРОДНЯ. Марыя, 14 гадоў, Станіслаў, 9 гадоў, і Казімір, 8 гадоў, Пуважынскіе атруціліся грыбамі. Іх перавезьлі ў местовую бальніцу, дзе яны памерлі. Назаўтра ад атручэных грыбоў памерло чацьвёртае дзіця.

ГРОДНЯ. Stadthauptmann апавешчае, што безупынные пытаньня ў местовым упраўленьні аб вестк з Расеі—зусім дарамны, бо як толькі гэткіе весткі прыходзяць сюды, аб іх ураз жэ паведамляюць адрэсатоў.

Два тутэйшые сьвяшчэнікі аб'ехалі акалічные праваслаўные вёскі і адпраўлялі там службу Божу.

ГРОДНЯ. У дэталічнай прадажы каробка серчыкоў каштуе тут 12 фэн. „Grodn. Ztg." прызывае тутэйшых жыхароў энэргічна барроцца з гэткім абіраньнем народу.

Злучэны ўрад места і павету Гродні памешчаецца цяпер у доме б. расейскаго селянскаго банку.

КНЫШЭВІЧЫ, Сакольск. пав. Ад падпалу згарэла хата аднэй удавы.

ВОЎКАВЫСК. Для места і павету тут устроен пункт дзеля выкарыстаньня трупаў скаціны. Пункт мае ўсе найнавейшые прылады.

БРЭСТ. Расейцы адступаючы, як вядома, бліска зусім спалілі гэтае расцьвітаўшае место, каторое цяпер становіць сумны абраз руіны. Руіны удоўж вуліц густа зарастаюць травой. Скрозь астаткі паркетоў прабіваюцца высокіе асоты. Груды перэгарэўшаго жалеза пакрываюцца шыбка узрастаючай на пажарышчы травой. Асабліва цяжкое ўражэньне робіць мёртвая цішынагэтаго жывого перад вайной места. Ад царквей асталіся толькі пачарнеўшые сьцены. Для паэта, а ешчэ больш для маляра тут знойдзецца заўсёды багаты матэр'ял.

ВЕЛАСТОК. Тут выкрылі патайную мыловарню і вялікі запас гатоваго ўжо мыла.

БЕЛАСТОК. Чародная праверка ваенна-абязаных расейскіх падданых адбудзецца 15 верасьня

# Духоўные песьні.

(Гл. «Гоман» № 66—67).

### Галубіная кніга.

О с-пад лесу, лесу, лесу цёмнаго,
А с-пад гаю, гаю, с-пад зялёнаго,
Выхадзіла хмара, хмара цёмная,
Выхадзіла туча грозная.
А с тэй хмары, хмары цёмнае,
А с тэй тучы, тучы грознае,
Выпадала кніга Галубіная,
Галубіная, пралюбімая.
А сорак локаць даўжынёю,
Пяцьдзесят локаць шырынёю,
Шэсцьдзесят цалей таўшчынёю.
Сабіраліся цары, дванадцаць князей,
Ніхто тае кнігі не прачытае,
Ніхто Божые мыслі не распазнае.
А абабраўся прамудты цар,
Прамудры цар Давід Яўсеевіч,
Ён жэ тую кнігу расчытае,
Ён-жэ Божые мыслі распазнае,
Ўсё па розуму, ўсё па памяці,
Па сваей па чыстай белай грамаці.
—А прамудры цар Давід Яўсеевіч
Раскажы ж ты нам, а з'ясьні-ж ты нам,
А па сваіх мыслях, па розумі,
А па розумі, а па памяці,
А па сваей чыстай белай грамаці,
А с чаго белы сьвет зачаўся?
—А зачаўся белы сьвет ад самога Бога,
Ад самога Бога, ад Саваофа.
А кніга мая Галубіная,
Галубіная, пралюбімая,
А прамудры цар Давід Яўсеевіч,
Раскажы ты нам, а з'ясьні ты нам,
А с чаго ясные гвезды зачыналіся?
—А зачаліся гвезды ад самаго Бога,
Ад Ісуса Хрыста, са вачэй Яго.
А кніга мая Галубіная і т. д.
С чаго жаркае сонцэ пачыналося?
—А зачалося сонцэ ад самаго Бога,
Ад самога Бога, Ісуса Хрыста,
Ісуса Хрыста з абліччa Яго
А кніга мая Галубіная і т. д.
—А с чаго ясен месяц зачынаўся?
А зачаўся ясен месяц ад самаго Бога,
Ад самаго Бога Ісуса Хрыста,
Ісуса Хрыста с чэла Яго.
А кніга мая Галубіная і т. д.
А с чаго люты марозы зачаліся?
—Зачаліся лютые марозы ад самаго Бога,
Ісуса Хрыста с пояса яго.
А кніга мая Галубіная і т. д.
А с чаго зачаліся буйные ветры?
—Зачаліся буйные ветры і т. д.
Ад Ісуса Хрыста з вусоў Яго.
А кніга мая Галубіная і т. д.
Чаму белы сьнягі выпадаюць?
—Выпадаюць белы сьнягі і т. д.
Ад Ісуса Хрыста са сьліны яго.
А кніга мая Галубіная і т. д.
Чаму дробны дажджы зачаліся?
—Зачаліся дробны дажджы і т. д.
Ад Ісуса Хрыста з валасоў Яго.
А кніга мая Галубіная і т. д.
Раскажы ты нам, а з'ясьні ты нам
Ўсё па розуме, ўсё па памяці,
А па сваей чыстай, белай грамаці:

БЕЛАСТОК. Тутэйшы пекар, Эфраім Авнет, с Купецкай вуліцы, скупляў праз сваіх агентоў хлеб без картачэк па другіх пекарнях і перэпрадаваў з вялікім барышом. За гэткую спэкуляцію яго пакаралі, адабраўшы ў яго пекарню.

Тутэйшы жыдоўскі народны вучыцель Левін, з Александраўскай вул., з невядомай прычыны павесіўся на цьвяку ў сваім пакоі.

СКАРУПЫ. У аднаго селяніна укралі каштановаго каня.

ІГНАТКІ. Тут адкрыта летняя ахронка для нямецкіх дзяцей за грошы, сабраные нямецкай колоніей Беластоку ў памяць 25-летняй працы тутэйшаго пастара.

САПІНЫ. Жонка аднаго с тутэйшых селян, каторы знаходзіцца ў расейскім войску, мела дзіця. Баючыся свайго мужа, яна забіла дзіця. Сувальскі суд, прынімаючы пад увагу змягчаючые акалічнасьці, засудзіў яе толькі на 9 мес. у вастрог.

ПІЖЫСКІ, Владысл. пав. У начы ў хату селяніна Юргічуса уварваліся тры грабежцы, каторые звязалі гаспадара і жонку яго і зрабавалі ў іх 556 руб. Сувальскі акружны суд засудіў: Патапаса, 17 гадоў, на 1 г. 5 мес. у вастрог, яго памочніка, 18 г., на 3 гады, а трэйцяго хаўрусніка, 23 г.,—на 4 гады ў папраўчы дом.

БАРАНАВІЧЫ. Дзеля разрыўкі для салдатоў тут ладзіцца нямецкі тэатр пад кірункам паручыка Мэвэса с прыдворнаго тэатру ў Маннгэйме. Тэатр будзіць іграць ня толькі тут, але і ў суседнім Слоніме.

КОЎНА. На падворку аднаго дому пры Кухарскай вул., недалёка ад местоваго саду, ў яму адходжаго мейсца ўваліўся хлопчык 3 гадоў. Яго пасьпелі дастаць без памяці, але ешчэ жывога.

ВІЛКОМІР. У тутэйшых ваколіцах жыто урадзіло зусім добра. Цэна бульбы, ешчэ нідаўна даходзіўшая ад 35 да 40 фэн., упала да 12 ф. за ф.. Затое трэба прызнаць, што ураджай фруктоў, каторы летась быў вельмі добры, сёлета аказаўся зусім слабы.

ЛІБАВА. Паветровая і сонечная лазьня пры местовай купальні вельмі пацярпелі ад пажару, узняўшагося бязспорна ад падпалу.

## ВЕСТКІ З РАСЕІ.

КОПЭНГАГА. На з'ездзі большэвікоў Ланін заявіў, што, калі Нямеччына годзіцца на мір без аннэксіі і контрыбуціі, а Англія і Францыя будуць далей дамагацца заваеваньня Мэссопотаміі і Эльзас-Лотарынгіі, дык Расея будзе прымушэна зрабіць сэпаратны мір. Расея ўступае ў чацьвёрты год вайны хворая і дэзорганізованая. „Мы больш цьвяроза ацэніваем расейскую ваенную сілу. Нашы саюзьнікі пераконаны, што Расея няздольна аказаць уплыў на вайну да канца яе“.

ЛОНДОН. «Times» даносіць с Пецярбурга, што Керэнскій у тую пятніцу быў на заседаньні рады раб. і салд., дзе яго сустрэцілі холадна. Прыната рэзолюція, жадаючы ад ураду і расейскай дэмокраціі энергічных крокаў дзеля утрыманьня ладу і зашчыты ад контррэволюціі.

Англіцкі генэральны штаб лічыць ваенную сілу Расеі зусім зломленай. З гэтай прычыны патрэбна узмацаваная чыннасць саюзьнікоў на іншых фронтах, каб перашкодзіць нямецкім плянам.

МАСКВА. «Русск. Сл.» пішэ:

Японскі міністэр заграцічных спраў Моното апавесьціў галоў палітычных партый, што чуткі аб пасылцы японскіх войск на падмогу Расеі не маюць ніякаго грунту.

АПАРАНДА. Расейскі міністэр судоў апрацаваў закон, паводлуг катораго за абразу саюзьнікоў Расеі і іх прэдстаўнікоў газэт караціімуць вастрогам.

ШТОКГОЛЬМ. Украінскае бюро апавешчае, што сазыў устаноўчаго сэйму адложэн на 3 сьнежня. Дзеля падгатоўкі яго міністэрство ўнутрэных дзел асыгнавало 18 мільёнаў франкоў.

ШТОКГОЛЬМ. Орган Максіма Горкаго «Новая Жізнь» пішэ аб рэакцыйных загадах расейскаго ураду:

«Кара сьмерці вернена. Левые газэты конфіскуюцца. Левые палітычные групы прасьледуюць. Проці галоў большэвікоў выстаўляюць цяжкіе і непадобные да веры абвіненьня у здрадзе гасударства, і спосаб абвіненьня паказвае на палітычную тэндэнцію. Ладжэную радай раб. і салд. штокгольмскую конфэрэнцію называюць прыватным прэдпрыемствам, а разам с тым апавешчаецца „вайна да канца“, значыць, вайна без канца. А ў той самы час ідуць на спатканьне контррэволюціі, і узрастае сьмеласць контррэволюцыонероў. Аб рэформах нічога не чутно. Устаноўчы сэйм адкладываюць усё на далей, а замест яго ў Маскве сазываюць нацыональны конгрэсс глаўным чынам с контррэволюцыйных і консэрватыўных элемэнтоў.

ШТОКГОЛЬМ. «Воля Народа» пішэ:

Ў Пецярбурзі выкрылі шырокую організацію проці рэволюціі над названьнем «Сьвятая Русь», каторая друкавала сваю газэту ў антысэміцкім духу, вінавацючы жыдоў у далейшым вядзеньні вайны. Паводлуг гэтай газэты, толькі паварот цара можэ даць Расеі мір. Організація апіралася найбольш на казакоў—ворагоў цяперашняго курсу.

З'езд вялікіх землеўласьнікоў Маскоўскай губэрні ўсемі галасамі пастанавіў бараніць сваю зямлю ад устаноўчаго сэйму.

Селянскі саюз пастанавіў конфіскаваць толькі гасударственые, царкоўные і манастырскіе землі. Пры раздзелі зямлі ўчасьнікоў вайны павінны надзяліць у першы чарод.

Сьв. Сынод пастанавіў на спадзеваным царкоўным саборы падняць пытаньне аб незалежнасьці украінскай цэркві.

ШТОКГОЛЬМ. Паводлуг вестак с Пецябурга, за апошніе тры тыдні расстрэляны каля 23.000 салдатоў за неслухмянасць.

ЛОНДОН. «Daily Chronicl» даносіць с Пецярбурга, што цар выключэн са спісоў расейскай арміі і пазбаўлен права насіць форму.

## З усяго сьвету.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). У глаўнай камісіі Рэйхстагу канцлер Міхаэліс заявіў:

„Я папрасіў фэльдмаршалка ф. Гіндэнбурга паведаміць мяне аб цяперашнім ваенным палажэньні. Гіндэнаург даў падробную адповедзь аб палажэньні і закончыў славамі: „З ваеннаго пагляду мы ў пачатку чацьвёртаго году вайны знаходзімся ў такім добрым палажэньні, як ніколі ад пачатку вайны“.

Далей канцлер сказаў, што перш, чым высказаць свой пагляд на мірнае прэдлажэньне Папежа, ён павінен згаварыцца з урадамі саюзных з Нямеччынай дзержаў. „Аднак, я ўжо цяпер магу сказаць, што мы вітаем кожную чэсную спробу дайсьці міра. Я гатоў выпрацаваць з глаўнай камісіей Рэйхстагу адказ на мірнае прэдлажэньне Папежа і спадзяюся, што гэта работа набліжыць нас усіх да тэй мэты, каторай усе жадаюць у сваім сэрцы: пачэснаго міра“.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). На заседаньні глаўнай Камісіі Рэйхстагу новы статс-сэкрэтар да заграцічных спраў, Кюльман, сказаў між іншым:

„Акуратна абдумаўшы, я магу заявіць, што ўступаючы ў чацьвёрты год вялізарнай сусьветнай вайны мы разам с тым уступаем і ў апошні год яе“.

Соцыалдэмократычны прамоўца сказаў, што гасударственые мужы варожых старон стараюцца зацягнуць вайну да зімы 1918 г., але народы гэтаго ня хочуць. Прамоўца заявіў, што ён лічыць фальшывым пагляд, бытцым падводная вайна сама сабой давядзе да міра.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Усе чуткі, бытцы Нямеччына вядзе з Расеей перэгаворы аб абмене палонных—бацькоў сямей, каторые знаходзяцца ў палоні ўжо 18 месяцоў, нязгодлівы с праўдай. Але між Нямеччынай і Расеей ёсць умова, паводлуг каторай яны абменівацца палоннымі, праз раны і калецтво утраціўшымі зусім здольнасць да якой-колечы ваеннай чыннасьці.

БУДАПЭШТ. Александру Вэкэрле загадано утварыць новы габінэт.

ЛОНДОН. У Лейчэстэры 20-го жніўня жонка Сноўдэна сказала прамову, гаворучы між іншым:

Прычына учасьця Амэрыкі ў вайне—гэта неспакойство аб па-

А якая цэрква ўсім сэрквам маці?
А які град ўсім градам маці?
А якая гара ўсім гарам маці?
А якая рэка ўсім рэкам маці?
А які зьвер усім зьверам маці?
А які птах усім птахам маці?
А якое дрэво йсім дрэвам маці?
А якая трава ўсім травам маці?
А які камень усім каменям маці?
—Сабор-цэрква ўсім цэрквам маці,
Ерусалім-град усім градам маці,
Ёрдан-рэка ўсім рэкам маці,
Сьон-гара усім гарам маці,
Леў-зьвер усім зьверам маці,
Грыфон-птах усім птахам маці,
Кіт-рыба ўсім рыбам маці,
Кіпарос дрэво ўсім дрэвам маці,
Кавыль-трава ўсім травам маці,
Алатыр-камень усім каменям маці.
А кніга мая Галубіная і т. д.
А прамудры цар Давід Яўсеевіч,
Разскажыж ты нам, аз'ясьніж ты нам,
А па сваіх мысьлях, па розуме,
А па розуме, а па памяці,
Па сваей па чыстай, белай грамаце:
Чаму Сабор-цэрква ўсім цэрквам маці?
—А таму Сабор-цэрква усім цэрквам маці,
Што ў Сабор-цэркві сьвечы пылаюць,
Тамо ўсягды анёлю сьпеваюць,—
Таму сабор-цэрква усім цэрквам маці.
А кніга мая Галубіная і т. д.
Чаму ж Ерусалім-град усім градам маці?
—У Ерусалімі-градзі Ісус Хрыстос нарадзіўся
І плашчаніцаю апавіўся,
Таму Ерусалім град усім градам маці.
А кніга мая Галубіная і т. д.
Чаму Ердан-рэка усім рэкам маці?
—А таму Ердан рэка усім рекам маці:
У Ердан ракі Ісус Хрыстос хрысьціўся,
У веру хрюсьцянскую прывадзіўся,
А хрысьціў Яго Іван Хрысьціцель.
А кніга мая Галубіная і т. д.
Чаму Сьон-гара ўсім гарам маці?
—А таму Сьон-гара усім гарам маці
На Сьон-гарэ Хрыстос аб'явіўся.
А кніга мая Галубіная і т. д.
Чаму Грыфон-птах усім птахам маці?
—Грыфон-птах сярод мора жыве,
Нікому шкоды не прычыняе,
Таму грыфон-птах усім птахам маці.
А кніга мая Галубіная і т. д.
Чаму кіт-рыба усім рыбам маці?
На кіт-рыбе белы сьвет стаіць:
Калі кіт-рыба ўстрэпянецца
Тады белы сьвет увесь затрасецца—
А кніга мая Галубіная і т. д.
Чаму кіпарос-дрэво усім дрэвам маці?
—Таму кіпарос-дрэво усім дрэвам маці
Што калі жыды Хрыста спаймалі,
На кіпарос-древі распялі.
А кніга мая Галубіная і т. д.
Чаму кавыль-трава ўсім травам маці?
—На кавыль-траву Хрыста кроў цекла,
Таму кавыль-трава усім травам маці.
А кніга мая Галубіная і т. д.
Чаму алатыр-камень усім каменям маці?
—Таму алатыр-камень усім каменям маці.
Што з яго ў Ерусалімі храм явіўся;
Тудом усе людзі прыхаджаюць,
А Госпада ўзвелічаюць,
А Ісуса-Хрыста і матку яго праслаўляюць.
О, вялікае Яго Імя,
Вяліко Імя Сьвят-Госпадаво!...

жычэные заюзьнікам грошы. Калі Амэрыка хопіцца за аружжэ, дык вайна закончыцца толькі тады, як Амэрыка пашле сваё войско у Эуропу. З гэтай прычыны староннікі міра ў Амэрыцы, а ў першы чарод кабеты, павінны дабівацца міра чым скарэй.

ВАШЫНГТОН. Перад рэзыдэнціей прэзыдэнта Вільсона суфражысткі устроілі дэмонстрацію проці вайны. Іх ворагі напалі на іх, парвалі іхнае знамя і ранілі некалькі кабет.

# ТЭЛЕГРАМЫ.

## Нямецкіе апавешчэньня:

### 21.VIII. Заходні тэатр:

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* У першы дзень баталіі пад Вэрдэнам перэвага матэр'ялоў і нялічэные ахвяры людзьмі не здалелі перэмагчы нямецкай сілы. Ня гледзячы на дробные мейсцовые ўдачы, штурмы адбіты на фронці 20 кіл. шырокім. Ад лесу Авокур да лесу Корр'ер страшэнным барабанным агнём нашы пазыціі абернены ў абшырную руіну.

Раніцай 20-го жніўня французкая пяхота пачала штурм густымі хвалямі. Кожын крок упярод яна аплачывала страшэннымі стратамі. У вострых бітвах на штыкі і контратакамі ворагі выкінуты блізка зусюль. На заходнім беразі Маасу ў руках французоў асталася толькі гара Мёртвы Чэлавек і палудзенны край Вароньняго лесу. На ўсходнім беразі баевая лінія змянілася ешчэ менш. Толькі ля вяршыны «304», на палудзенным усходзі ад Самонь'е і ў лесі Фосс ворагі крыху пасунуліся ўпярод. Нашы способы зашчыты апраўдалі сябе знаменіта. Страты французкай пяхоты адпаведаюць яе массоваму наступленьню і дахо-дзяць страшэннай меры.

Збіты 26 варожых самалётаў. Мы утрацілі 5.

### Усходні тэатр:

Ад Дзьвіны да Дунаю — без перамен.

### 22.VIII. Заходні тэатр:

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* У Фляндрыі артылерыйская бітва на узбярэжжы і між Бікшод і Варнэтон дайшла вялікай сілы. Пры С.-Жульен адбіто сільнае наступленьне англічан. Між дарогамі са Стадэн'а і Мэнін у Іпр сягоньня узняліся новые бітвы. Пры Ленс пасьля сільнай падгатоўкі пачаліся вельмі вострые бітвы. У страшэннай бітве на штыкі ворагі адбіты і ўдзержаліся толькі ў адным мейсцы. Пры Ле Шатле ўзяты палонные.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* На полі бітвы пад Вэрдэнам французы далей штурмавалі да познай ночы. Пасьля чысьленых штурмоў ворагі спыніліся ў палудзенна-усходняй часьці лесу Авокур і на гарах на ўсходзі ад яго. Усе штурмы на вяршыну «304» адбіты. На ўсходнім беразі Маасу французы ўварваліся ў палудзенную часць вёскі Самоньe. На ўсіх іншых пунктах адрэзку ад вяршыны «304» да дарогі Бомон-Вашэровіль і ў лесі Фосс густые массы іх крывава адбіты перад і пасьля абеду. Страты пяхоты ворагоў — цяжкіе. Атакаваўшые дывізіі трэбало замяніць сьвежымі.

### Усходні тэатр:

*Фронт Леопольда Баварскаго:* Ля Рыгі, Дзьвінска, Тарнополя і Збруча ажывілася баевая чыннасць.

*Фронт фэльдмаршалка Макензэна:* На поўдні ад даліны Тротуса румыны атакавалі вялікімі сіламі. Усе атакі адбіты з вялікімі стратамі.

## Аустрыяцкіе апавешчэньня.

ВЕНА 20.VIII. Італьянскі тэатр: На ўсенькім фронці Ізонцо ішлі самые вострые бітвы. Італьянцам нідзе не ўдалося здабыць ні аднэй пядзі зямлі.

19 жніўня мы ўзялі больш за 3.000 палонных. Крывавые страты у італьянцоў — надта вялікіе. На плоскагорыі Сямі Грамад ворагі самахоць пакінулі на поўначы ад Ас'яго пазыціі на італьянскай зямлі на шырыні 30 кіл. Учора яны адступілі і з Даліны Сугана.

ВЕНА. 21.VIII. Італьянскі тэатр: Адзінадцатая баталія на Ізонцо йдзе поўным ходам. На поўдні ад Аўпа і на ўсходзі ад Канале ворагам удалося крыху адсунуць наш фронт. Ля Верха наступленьне італьянцоў спынено На плоскагорыі Карст здабыцьце расстрэлянай вёскі Сэлё — ядыная ўдача італьянцоў, аплочэная тысячамі ахвяр. Спробы ворагоў зламаць наш адпор на шырыні 70 кіл. нідзе не ўдаліся. За два дні мы ўзялі больш за 5.600 палонных і 30 кулемётаў. На паўночным заходзі ад Арс'еро узяты 4 афіцэры, 90 салдатоў і 1 кулемёт.

ВЕНА. 22. VIII. Італьянскі тэатр: 21 жніўня — гэта адзін с самых гарачых дзён бітвы на фронці Ізонцо. На ўсходзі ад Канале мы былі прымушэны уступіць ворагам вёску Верх. Усе далейшые спробы ворагоў пасунуцца ўпярод былі дарэмны. На ўсходзі ад Гэрцу і пры Біліі ўсе штурмы ворагоў адбіты з вялікімі стратамі, і італьянцы былі прымушэны зрабіць паабедзі перадышку. Найбольш вострые бітвы былі на плоскагорыі Карст. С падмогай пераходзіўшаго ўселякую меру артылерыйскаго агня ворагі ад раньня да познаго вечара кідалі ў бітву адну дывізію за другой. Пасьля невялікаго ваганьня, адпаведаючаго сыстэме зашчыты, ўдача бязспорна асталася за намі. Сягоньня раніцай італьянскіе массы пачалі новые штурмы.

На фронці Конрада ф. Гэтцэндорффа ў даліне Суганы мы ўзялі 70 палонных, а на паўночным заходзі ад Арс'еро — 2 афіцэроў, 130 салдатоў і 3 кулемёты. На заходзі ад возера Гарда нашы войскі здабылі варожы апорны пункт.

ВЕНА. 22.VIII — у вечары. Бітва на Ізонцо трывае далей. Ход яе — удачны для нас.

## КАЛЯ ВАЙНЫ.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). За месяц ліпень нямецкімі падводнымі лодкамі затоплены 811.000 тонн, а ад пачатку падводнай вайны—ўсяго 5.495.000 тонн.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Падводные лодкі ў Паўночным моры і Атлянтыцкім акіане ізноў затапілі 23.000 тонн.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Нашы падводные лодкі ў Паўночным моры і Атлянтыцкім акіані ізноў затапілі 5 параходаў і 2 парусьнікі.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Новые ўдачы падводных лодак у каналі Ляманш, Паўночным моры і Атлянтыцкім акіане: 5 параходаў, 3 парусьнікі, 1 рыбалоў.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). У начы з 21 на 22 жніўня адна наша марская эскадра лятуноў атакавала ваенные будоўлі на Эмбэры і ў графстве Лінкольн і англіцкіе сілы на узбярэжжы. Усе лятуны вярнуліся бяз шкод.





# Спісак беларускіх кніжак.

Ведаючы цану кнігі, найлепей прыслаць грошы наперад — гэтак таней каштуе перасылка.

(Кніжкі азначэные *біс* — выйшлі і лацінскімі і «рускімі» літэрамі.

## Навуковые даступные для усіх.

| | | Цэна руб. | кап. |
|---|---|---|---|
| біс | Ян Баршчэўскі, першы беларускі пісменнік. Біографічны нарыс Р. Зэмкевіча | — | 20 |
| | Praktyčnye rady ab harodnictwie | — | 7 |
| | Гутаркі аб небі і зямлі з рысункамі | — | 15 |
| біс | Цукер, В. Тройцы | — | 3 |
| біс | Гутаркі аб гаспадарцы | — | 3 |
| біс | Як ратаваць уздутую жывёлу | — | 3 |
| біс | Як бараніцца ад халеры | — | 1 |
| біс | Як рабіць добрые рамовые вульлі | — | 5 |
| біс | Зямельная справа у Новай Зэляндіі | — | 3 |
| біс | Кароткая гісторыя Беларусі—Власта | — | 60 |
| | Bł. Andrej Boboła mučynik | — | 5 |
| | Pčalina—žywiołka małaja a karyści daje mnoha | — | 30 |
| | Як багацеюць чэскіе селяне | — | 10 |
| | Як выбіраць дэпутатоў у Гас. Думу | — | 3 |
| | На дарозе да новаго жыцьця. А. Новіны | — | 20 |
| | Alkahol | — | 2 |
| | Rady dla matak | — | 3 |
| | Św. Jozafat Kuncewič | — | 3 |
| | Našto bielarusam gazety | — | 3 |
| | Колькі слоў аб дзявочай опратцы на Беларусі | — | 10 |

**Вільня, Завальная 7. Беларуская Кнігарня.**

Прысылаючы грошы почтай трэба адрэсаваць так: **Wilnia, Wallstrasse 7, Weisruthenische Buchhandlung, W. Lastowski.**

Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтва «Гоман». Рэдактар Язэп Салавей.